*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 9(394) 3 САКАВІКА 1999 г.**

## “Прагулка па Ніжне-Пакроўскай” ці вяртанне у Полацк пачатку стагоддзя (1910г.).

На старонках часопісаў і газет усё часцей сустракаюцца наведамленні аб адкрыцці новых музеяў і канцэптуальных выстаў у нас на Беларусі. У 1998 г. толькі Адаму Міцкевічу было прысвечана некалькі буйных экспазіцый, якія сталі надзвычай цікавымі не толькі з пункту гледжання новых экспанатаў (дагэтуль незнаёмых наведвальніку), але і з пазіцыі іх музейнай інтэрпрэтацыі.

Цікавыя ідэі, каштоўныя музейныя прадметы, часта сугучныя ім мастацкія рашэнні ўвасабляюцца ў сур’ёзныя і неардынарныя экспазіцыі. Наяўнасць такіх экспазіцый сведчыць аб пэўным узроўні прафесійнага росту музейных супрацоўнікаў рэспублікі. Напрыканцы стагоддзя і тысячагоддзя можна пра гэта казаць, як аб станоўчых выніках развіцця музеялогіі у нашай краіне.

Дарэчы, што датычыцца часу, то сёння асабліва часта мы вяртаемся да падзей, што былі 100 і болей гадоў таму назад. Відаць, канец другога тысячагоддзя- чарговы напамін чалавецтву пра тое, як хутка бяжыць час. Пра гэта не толькі пішуць у артыкулах, але калі-нікалі і ствараюць музейныя рэтраспектывы.

У сувязі з адчуваннем хутка бягучага часу, адсутнасці пэўнай юбілейнай даты, з нагоды перадачы Полацкаму гісторыка-культурнаму музею-запаведніку помніка архітэктуры 17 ст. — так званага, доміка Пятра I, супрацоўнікі нашага запаведніка вырашылі зрабіць жыхарам Полацка падарунак-музейную рэтраспектыву.

Размова пойдзе аб стацыянарнай выставе “Прагулка па Ніжне-Пакроўскай”, адкрытай у згаданым вышэй помніку архітэктуры 17 ст., доме, некалі належыўшым купчысе Камянковай.

Сам помнік вядомы ўсім жыхарам Полацка з маленства, таму што многа гадоў у ім месцілася адзіная ў горадзе дзіцячая бібліятэка імя Л.Талстога. Помнік Талстому так і застаўся стаяць перад былой бібліятэкай. Л.Талстой ніколі не быў у нашым горадзе, як не быў у ім і У.Ленін, чыё імя носіць зараз вуліца, пра якую і пойдзе размова.

У свой час паўставала пытанне аб вяртанні вуліцам горада старых назваў. У склад камісіі, якая выпрацавала канцэпцыю вяртання назваў вуліцам Полацка, уваходзілі і супрацоўнікі нашага запаведніка. Але тады з вяртаннем нічога не выйшла. Такім чынам, задумка тэмы і назвы выставы стала своеасаблівым рэваншам.

Вуліца Ніжне-Пакроўская, пра якую ідзе размова, атрымала сваю назву ў сярэдзіне19 ст. (Пакроўская царква знаходзілася ў канцы гэтай вуліцы). Раней вуліца называлася Вялікай.

Што тут і як было на пачатку стагоддзя досыць добра вядома, дзякуючы Даведніку па Полацку, што быў выдадзены у 1910 г. полацкім царкоўным брацтвам з нагоды пераносу мошчаў Св.Еўфрасінні Полацкай з Кіева ў Полацк. Дарэчы, Даведнік быў надрукаваны ў полацкай друкарні Х.Клячко, а даход ад яго продажу перадаваўся на карысць сіроцкаму прытулку.

Вышэй згаданы Даведнік быў пакладзены ў падмурак канцэпцыі. Яго тэкст, скапіраваны, павялічаны і ламініраваны, стаў вядучым тэкстам экспазіцыі выставы. Кожны, хто прыходзіць сёння наведаць выставу, можа пагартаць старонкі Даведніка і знайсці там: назвы вуліц Полацка, на якіх месціліся тыя ці іншыя гатэлі, крамы, аптэкі, гімназіі, школы і г.д.; імёны гандляроў, урачоў, банкіраў, настаўнікаў...; цэны на прадукты, праезд; расклад руху цягнікоў і параходаў. Але ўсё гэта — на пэўны час — на лета 1910 г., калі адбыўся перанос мошчаў Св.Еўфрасінні ў Полацк.

Пасля аналізу фондаў стала відавочна, што матэрыялу не хапае. Тры месяцы навуковыя супрацоўнікі запаведніка (пяць чалавек) працавалі ў архівах, вялі пошукі ў фондах суседніх музеяў, замаўлялі копіі, ксеракопіі, праводзілі рэстаўрацыю мэблі, распрацоўвалі тэматыка-экспазіцыйны план і ўдзельнічалі ў стварэнні самой экспазіцыі разам з мастаком У.Галебай. Уладзімір Іванавіч Галеба стаў не толькі аўтарам мастацкага рашэння, але і непасрэдным выканаўцам сваёй ідэі.

Асноўнымі комплексамі экспазіцыі сталі ўмоўныя інтэр’еры пабудоў пачатку стагоддзя, што па сёняшні дзень захаваліся на былой Ніжне-Пакроўскай вуліцы. Напрыклад, дом гарадскога галавы Мікалая Ласковіча, аптэка Баяранблюма, гандлёвая крама Мінца і г.д.

У экспазіцыі знайшлі сабе адпаведнае месца музейныя рэчы, якія былі звязаны з пэўнымі асобамі. Напрыклад, ва ўмоўным інтэр’еры заезджага дома Д.Арлієўскага прыцягвае ўвагу наведвальніка шыкоўны буфет, які калісьці належыў сям’і Арлієўскіх.

У кожным коплексе ёсць гадзіннікі, якія нагадваюць нам аб хуткасці часу.

16 траўня 1998 г., напярэдадні Міжнароднага дня музеяў, выстава пачала працаваць. Сёння яна - не толькі асобная экспазіцыя, але і асноўная частка пешаходнага экскурсійнага маршруту “Прагулка па Ніжне-Пакроўскай”. Запрашаем вас наведаць выставу.

***Т.А.Джумантаева.***
***Намеснік дырэктара па навуковай рабоце. Полацкі гісторыка-культурны музей - запаведнік.***

## Канферэнцыя ў Эрмітажы

У свой час пад вялікім ціскам сённяшняй беларускай улады фонд Сораса спыніў існаванне на тэрыторыі нашай краіны. Аднак у Расеі ён актыўна дзейнічае і аказвае вялікую падтрымку расейскіх навукоўцам і дзеячам культуры. Дзякуючы фундацыі вышэйзгаданага фонда ў Дзяржаўным Эрмітажы Расеі ў Санкт-Пецярбургу ў студзені 1999 года адбылася міжнародная канферэнцыя “Сярэдневяковая архітэктура і манументальнае мастацтва. Рапапортаўскія чытанні”. Вучоныя Расеі, Украіны і Беларусі разгледзелі дасягненні археолагаў, гісторыкаў архітэктуры і мастацтвазнаўцаў Усходняй Еўропы за апошнія 10 год XX стагоддзя. Уся канферэнцыя была прысвечана памяці вядомага навукоўца, доктара гістарычных навук, прафесара Акадэміі мастацтваў СССР Паўла Аляксандравіча Рапапорта, які зрабіў вялікі ўклад у развіццё археалогіі Расеі, Украіны і Беларусі ў пасляваенны перыяд. Памёр П.А. Рапапорт у 1989 годзе і вось ужо адбыліся другія чытанні ў гонар яго светлай памяці.

Упершыню на тэрыторыі Беларусі ён з’явіўся ў 1949 г., калі разам з Мікалаем Вароніным працягнуў вывучэнне Ніжняй царквы XII ст. на тэрыторыі Старога Замка ў Гародні, знойдзенай Ю. Ядкоўскім у 1932-33 гадах. Потым ён самастойна вывучаў канструкцыі і планіроўку шэрагу гарадзішчаў X-XI стст. Заходняй Беларусі. Сярод іх абарончыя збудаванні старажытных Ваўкавыска і Наваградка, гарадзішча Турэцкая гара каля Слоніма і г.д. У гэты час Павел Рапапорт абследаваў верхнія часткі Барысаглебскай царквы ў Наваградку перабудаванай ў XYI-XYII ст.ст. і падмуркі недабудаванага храма XII ст. у Ваўкавыску (1959 год).

Пачынаючы з 1976 года даследчык актыўна вывучае Полацкае і Віцебскае мураванае дойлідства XII ст. Ён знайшоў рэшткі мураванага палаца полацкіх князёў на Верхнім замку, разам з вядомым Наўгародскім рэстаўратарам Рыгорам Штэндарам падрабязна вывучае ўнікальны Спаса-Еўфасіннеўскі храм у Полацку і пазней друкуе ў розных выданнях яго дакладную рэканструкцыю на XII ст.

Свой уклад вучоны ўнёс і ў даследванні Каложы царквы, княжацкага палаца і рэштказ цаглянай абарончай сцяны XII ст. у Гародні. Тут, як і ў Віцебску, ён працаваў разам з беларускімі спецыялістамі.

П.А. Рапапорт дапамог сказаць сваё слова ў беларускай навуцы Мікалаю Ткачову, Людміле Панічавай, Алесю Кушпярэвічу і аўтару гэтых радкоў. Яго імя ўнесена ў энцыклапедычнае выданне “Археалогія і нумізматыка Беларусі”.

***Алег Трусаў,***
***кандыдат гістарычных навук.***

Шаноўнае спадарства! Мы зноў прапануем вам падпісацца на нашую газету. Мы не збіраліся падымаць цану, але здарылася так, што пошта, запрасіўшы звесткі па цане на другое паўгоддзе, вырашыла ўвесці гэтыя цэны з красавіка. Зрабіць нешта ўжо не магчыма. Тым не менш мы рады паведаміць вам, што ў сакавіку колькасць падпішчыкаў перасягула 2000 рубеж і склала 2040 асобнікаў. Дзякуй за падтрымку. Заставайцеся з намі.

**Ф. СП - 1** **Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

На 1998 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | X | X | X | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 60000 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На 1998 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | X | X | X | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча,ініцыялы)

Аляксей Дземідовіч

# ЧАС ... АСЭНСОЎВАЦЬ І ЎСВЕДАМЛЯЦЬ

## І. Хто і што яны?

Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне "ВЕТЭРАН" у Горадні ... Так, менавіта тут, на зямлі Прынёманскай яно ўзнікла яшчэ ў 1994 годзе, бадай, ці не ў ліку першых у краіне. Хоць і дагэтуль, пэўна, нямногія ведаюць пра яго існаванне і працу. Але перш чым распачаць пра гэта аповяд, я павінен сказаць колькі слоў пра тое, чаму ўзнікла менавіта такая дэмакратычная суполка ветэранаў. Здавалася б, адназначна, што ветэраны ёсць ветэраны і дзяліць ім паміж сабой няма чаго: усе ваявалі супраць аднаго ворага, за адну Айчыну, святую зямлю нашых продкаў ... і цяпер клопат усіх і кожнага, каб яна квітнела ад працы нашых рук і добра на гэтай зямлі ўсім жылося, хто б ты ні быў: беларус, рускі, украінец і г.д. Толькі вось падыходы да справы, да таго, як гэта зрабіць у розных людзей, у тым ліку і ветэранаў аказваецца розныя: адзін напрыклад, хоча, каб на яго зямлі паважалі яго родную мову, гісторыю і традыцыі сваёй шматпакутнай старонкі, а другога гэта хвалюе менш, яму падавай інтэрнацыяналізм, магутны СССР у лепшым выпадку, а то і Сталіна з "жалезнаю рукою" ...

І вось уся работа аб'яднання "Ветэран" і будуецца на тым, каб духоўна зблізіць усіх пажылых людзей, абараніць іх сацыяльныя грамадзянскія правы і інтарэсы, ставіць у цэнтр увагі выхаванне моладзі на лепшых нацыянальных, патрыятычных і культурных традыцыях беларускага народа. Менавіта такія высакародныя мэты ставіць перад сабой аб'яднанне "Ветэран" начале са сваім старшынёй рады дацэнтам Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы М.А.МЕЛЬНІКАВЫМ і ў сваім праекце-плане "ВЕТЭРАНЫ — МОЛАДЗІ". "Гэта наш святы абавязак, — кажа Мікалай Аляксандравіч, — каб сёння ветэраны вайны і працы ў адной кагорце з моладдзю рабілі ўсё для таго, каб наша зямля, яе багатая гістарычная спадчына і традыцыі адраджаліся і служылі людзям, а не догмам і нерэальным згубным ідэям. Усім нам сёння, асабліва моладзі, трэба імкнуцца жыць па сумленню і рабіць усё асэнсавана і свядома. Толькі так можна навучыцца паважаць сябе і іншых і любіць сваю Айчыну, стаць яе патрыётам.

А гэта некалькі іншае ад таго, чаго прытрымліваліся раней ветэраны ў рабоце з піянерамі, камсамольцамі і г.д. Яны хутчэй выхоўвалі паслухмяных інтэрнацыяналістаў, гатовых ісці ў якасці пушачнага мяса ў Афганістан, Венгрыю, Чэхаславакію і куды хочаце ... Аб гэтым, як і шмат аб якіх іншых тэмах і гарачых кропках сучаснасці ветэраны-дэмакраты нярэдка спрачаюцца, дыскутуюць, абураюцца несправядлівасцю, якая б'е бязлітасна па ўсіх. І як бы добра было, каб для абмену думкамі і пошуку ісціны збіраліся ўсе разам. Я не раз пра гэта казаў, праводзячы "круглыя сталы" на абласным радыё ў перадачах радыё-часопіса "Бацькаўшчына" з удзелам прадстаўнікоў розных суполак, у тым ліку і ветэранскіх, тых жа, скажам, воінаў-афганцаў і іншых, што скрыжоўвайце лепш свае погляды і думкі ў дыскусіях, чым потым зброю на вуліцах, у бойках, рабіце усё для таго, каб да гэтага ніколі не даходзіла ... І якой радасцю, лагодаю свяціліся вочы і твары многіх маіх дыскутантаў, апанентаў пры гэтых словах ... Так было і тады, калі аднойчы выступаў перад ветэранамі гарадской арганізацыі лідэр ветэранаў-дэмакратаў, ужо знаёмы вам М.А.МЕЛЬНІКАЎ, хоць з месцаў і былі спачатку асобныя выкрыкі нястрыманых людзей, але ў канцы сустрэчы да яго падыходзілі некаторыя франтавікі і як франтавіку паціскалі руку і дзякавалі за добрыя словы, узаемапаразуменне... А мы думалі, казалі яны, што вы зусім іншыя. Дзяліць нам сапраўды няма чаго і адварочвацца адзін ад другога было б неразумна для ўсіх...

## ІІ. МЦК, яго дэвіз: Наперад — праз асвету!

Знаёмячыся з работаю АБ'ЯДНАННЯ "ВЕТЭРАН" і МАЛАДЗЁЖНАГА ЦЭНТРА КУЛЬТУРЫ імя КАЛІНОЎСКАГА, створанага затым пры ім па ініцыятыве таго ж М.А.МЕЛЬНІКАВА, я ні на хвіліну не сумняваўся ў справядлівасці і актуальнасці гэтых слоў ветэранаў і адначасова ўсё больш глыбока пераконваўся, што тут будуюць сваю дзейнасць істотна не так, як усім нам дзесяцігоддзямі ўдзёўбвалі ў галаву настаўнікі ў школе, палітрукі ў арміі, лектары і прапагандысты на працы ў таталітарныя часы. Вучылі і выхоўвалі тады ўсіх і ўсюды, але без свайго асабістага асэнсавання і ўсвядамлення, а па загаду камандзіра, ці нават самага вярхоўнага або дырэктыве ЦК. Цяпер так не павінна быць — перакананы ветэраны-дэмакраты. І вучыцца, і рабіць штосьці несвядома, неасэнсавана можна толькі на шкоду і сабе, і грамадству. Досыць, мы ўжо нарабілі гэтай шкоды і сабе, і на будучыя пакаленні хопіць ... Вось чаму я гэтыя, здавалася б, не новыя для вас словы АСЭНСОЎВАЦЬ І ЎСВЕДАМЛЯЦЬ паставіў у назоў артыкула. Такую мэту ставілі перад сабой стваральнікі ЦЭНТРА КУЛЬТУРЫ імя КАЛІНОЎСКАГА, вызначыўшы яго арыенцір і шлях у наступным дэвізе: "ЧАС ПРЫЙШОЎ. МОЛАДЗЬ НАПЕРАД. ПРАЗ АСВЕТУ".

Ну, што тычыцца часу і закліку наперад, скажыце вы, то моладзі заўсёды, ва ўсе часы было ўласціва імкнуцца наперад. Толькі не ва ўсе часы, шаноўнае спадарства, ёй гэта дазвалялася і яе "пушчалі" наперад, нават той жа камсамол (апроч цаліны хіба, ды БАМа). А ва ўладзе, тым жа ЦК, навуцы баль правілі зусім не маладыя...

А вось наконт асветы, то тут, як можа падацца многім, была быццам бы зялёная вуліца ... Ва ўсякім разе і школы, і вышэйшыя навучальныя ўстановы ў нас фармальна заўсёды былі перапоўненыя, але вучыліся не жыццю і не для жыцця, а зачастую для адукацыі (маўляў, мы самая адукаваная краіна ў свеце), для свайго атэстата і дыплома, зноў-такі — не асэнсоўваючы і не ўсведамляючы да канца ўсяго гэтага.

А вынік — амаль пагалоўная бездухоўнасць, амаральнасць, невысокі менталітэт, няўменне арыетавацца ў становішчы не толькі ў агульнаеўрапейскім ці глабальным, сусветным маштабе, а нават у сваёй уласнай дзяржаве ... Наша галасаванне, ды і тое ж бяздумнае паслушнае націсканне кнопак наверсе ў парламенце, як было раней, яркае, але горкае таму сведчанне. Я ўжо не кажу пра ўзровень на месцах, у правінцыі ... І многае тут залежыць не толькі ад хібаў у самім прафесіяналізме — гэта яшчэ паўбяды, а проста ад няведання, няўмення асэнсаваць што да чаго ... І такое не адно пакаленне кадраў, а калі ў шырокім сэнсе слова — грамадзян мы выхавалі ...

І вось калі сёння моладзь цэнтра культуры на чале з ветэранамі ў дывізе свайго імкнення наперад указвае — ПРАЗ АСВЕТУ, то, як сказаў мне іх лідэр М.А. МЕЛЬНІКАЎ, у гэтае слова — шлях яна ўкладвае не проста голыя веды, ды яшчэ ў нагрузку, як было, з палітінфармацыямі, палітднямі і палітзаняткамі, камсамольскай вучобай і вячэрнімі ўніверсітэтамі, а дасканалае авалодванне сваёй прафесіяй і высокую эрудыцыю, культуру, уменне глыбока і правільна разбірацца ў сучасным як сацыяльна-эканамічным, так і палітычным становішчы. Такі падыход ставіцца ў аснову усёй шматграннай работы Цэнтра. А гэта не толькі тыя ж лекцыі, але і дыскусіі, кінапаказы, сустрэчы з цікавымі і слыннымі людзьмі заняткі ў літаратурна-творчых і гістарычна-краязнаўчых клубах, у шматлікіх гуртках па інтарэсах у школах і многае, многае іншае.

А пачыналася ўсё, здавалася б, са звычайнага культурна-краязнаўчага КЛУБА імя МАКСІМА БАГДАНОВІЧА ў 24-й школе Горадні, які быў створаны па ініцыятыве самога Мікалая Аляксандравіча МЕЛЬНІКАВА і пры надтрымцы дырэктара гэтай школы Ніны Уладзіміраўны ФУРС. Ужо самі крылатыя словы Максіма Багдановіча, што пад эмблемай клуба, "БЕЛАРУСЬ, ТВОЙ НАРОД ДАЧАКАЕЦЦА ЗАЛАЦІСТАГА ЯСНАГА ДНЯ" ... пасяляюць у маладых сэрцах упэўненасць, што мы, беларусы, ПРЫДЗЕМ да лепшага жыцця ... Юных сяброў гэтага клуба аб'ядноўвае не толькі гэтая ўпэўненасць і прага да творчасці, самавыяўлення, але і шчырая любоў да роднай літаратуры і сваёй Бацькаўшчыны. Адначасова іх клапоціць і хвалюе яе нялёгкі адраджэнскі шлях сёння. І таму зусім не выпадкова, а ўпаўне асэнсавана і свядома, як мне падаецца, сталі дэвізам клуба такія шчымлівыя радкі з верша Ніла ГІЛЕВІЧА, якія адчыняецца першая старонка летапісу клуба:

Равуць вятры, грымяць грамы,  
Пыл засціць вочы нам.  
І ўсё ж, і ўсё ж мы дойдзем,  
Дойдзем мы да Беларусі!

Непасрэднасцю і шчырасцю прызнання вее і ад такіх слоў, што выказалі тут першыя актыўныя сябры клуба Вольга КАРНЕВІЧ і Вольга КОБРЫНА: "Клуб наш яшчэ зусім малады, але ён аб'яднаў тых хлопчыкаў і дзяўчынак, якія імкнуцца больш даведацца пра сучаснае і мінулае свайго краю, знайсці сваё месца ў гэтым няпростым жыцці".

Асабліва незабыўны і прыгожы след, бы той прамень сонца, адлюстравалі і пакінулі не толькі ў летапісе, але і ў сэрцах сяброў клуба наведванне музеяў у вёсцы ГУДЗЕВІЧЫ і Адама МІЦКЕВІЧА ў Навагрудку, а таксама дома-музея Максіма БАГДАНОВІЧА ў Горадні і знаёмства з такімі цудоўнымі людзьмі, як Алесь БЕЛАКОЗ, Аляксандр МІЛІНКЕВІЧ, Данута БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА, Апанас ЦЫХУН і інш.

Кола дзейнасці ветэранаў-дэмакратаў, вядома, не замкнулася на рабоце ў гэтым клубе. Амаль услед за ім ўзніклі і раслі, як добрыя родныя браты, такія ж клубы ў школе № 25, які ўзначаліла настаўніца Галіна Аляксандраўна ДЗЕМЧАНКА, і ў школе № 26, якім кіраваў аж да апошніх дзён свайго жыцця яе дырэктар Валянцін Іванавіч ШАЎЦОЎ. Цяпер клуб носіць яго імя.

У гэтай жа школе адначасова пачала працаваць і ТЭАТРАЛЬНАЯ СТУДЫЯ, якая сёння карыстаецца папулярнасцю нават за межамі сваёй школы. Пасля ўдалых выступленняў на конкурсах і аглядах, фрагменты некаторых пастаўленых імі спектакляў па творах Янкі КУПАЛЫ, гучалі нават на абласным радыё. З удзячнасцю трэба сказаць, што працуе з юнымі тэатраламі ўлюбёны ў сваю справу настаўнік гэтай школы Альберт Міхайлавіч МЕЛЬНІКАЎ.

## ІІІ ... Яго вечна жывая постаць

Нельга сёння не сказаць колькі добрых удзячных слоў і пра фальклорныя гурткі ў школах, створаныя па ініцыятыве МЦК. Так, пры школе № 25 працуе гурток "Беларускія вячоркі", якім кіруе настаўніца Ірына Іосіфаўна КОЎШЫК, а ў той жа 26-й школе гурток "Спадчына" вядзе настаўніца Вольга Пятроўна ДАНІЛЬЧЫК. Ёсць такі гурток і ў школе № 2, яго ўзначальвае Эла Аляксандраўна КУМКО.

Каардынуе і накіроўвае работу гэтых гурткоў у маладзёжным цэнтры ФАЛЬКЛОРНАЕ АБ'ЯДНАННЕ "КВЕТКА ПАПАРАЦЬ", якое кансультуе выкладчык дзяржуніверсітэта Руслан Канстанцінавіч КАЗЛОЎСКІ. Гэта цікавы творчы калектыў ужо знітаваў і лучыць у захапляльнай працы па вывучэнні вуснай народнай творчасці і народных абрадаў не толькі многіх школьнікаў і настаўнікаў, але і студэнцкую і рабочую моладзь. У яго працы сёння прымаюць удзел, дапамагаюць усведамляць моладзі ролю культурнай і гістарычнай спадчыны ў жыцці грамадства апроч супрацоўнікаў універсітэта, настаўнікаў таксама работнікі музеяў, пісьменнікі, культуролагі спецыялісты, словам, усе тыя людзі, якія гатовы самаадданa служыць справе культурнага адраджэння сваёй краіны, выхоўваць свядомае маладое пакаленне.

Я зноў звяртаю ўвагу на слова СВЯДОМАЕ і на пачатак дэвізу маладзёжнага цэнтра культуры "ЧАС ПРЫЙШОЎ. МОЛАДЗЬ НАПЕРАД. ПРАЗ АСВЕТУ". Дык вось менавіта прыйшоў час вучыць і выхоўваць такое свядомае маладое пакаленне! Інакш гэтае пакаленне і ўсіх нас чакае такая небяспечная з'ява як дэградацыя асобы (яна ўжо пачалася), самога чалавека як носьбіта розуму і дабра, шукальніка лепшых ідэалаў і шляхоў жыццябудовы. Я гавару гэта не толькі як педагог па адукацыі і журналіст, а перш — як чалавек, далёка не абыякавы да моладзі, да дня сённяшняга і будучыні зямлі сваёй, нашай дзяржавы. І таму не магу не біць трывогу за тое, ЯКАЯ маладая змена вырастае, ШТО яна робіць, ЧЫМ захапляецца і КУДЫ ідзе ...

Да рынку, скажаце вы , куды ж? Але дзе там? ... Хутчэй да яго прафанацыі і свайго самагубства, выраджэння ўсяго чалавечага ў чалавеку ... А калі гаварыць пра апошнія гады так званай перабудовы і нашага ўваходжання ў рынкавую сістэму, то моладзь паміж усімі гэтымі радкамі (дзікім і яшчэ нейкімі там) проста выпала з поля зроку ўсіх, у тым ліку і дзяржавы, (якая сама не ведае, што будуе і куды ідзе). Нашых юнакоў і дзяўчат ніхто і нікуды не клікаў, тым больш да АСВЕТЫ, акрамя хіба як на базар, паездкі за мяжу па тавар, у гандаль па прымітыўнаму прынцыпу "купі-прадай"...

А гэта ж, пагадзіцеся, памылковы падыход і ўвод моладзі ад нармальнай здаровай падрыхтоўкі да жыцця, адрыў ад вытворчасці, стварэння матэрыяльных і культурных каштоўнасцей, словам, ЧАСОВЫ СПОСАБ выжыць і толькі... Бо які ж, скажыце, бізнес, рынкавую эканоміку можна будаваць маладому чалавеку без адпаведнай адукацыі, асветы, выхавання ў сабе маральных нормаў і духоўных якасцяў? Так можна толькі даць зялёную вуліцу дзікунам і невукам, махлярам, рэкецірам і г.д., што і адбываецца ... За душою ў такіх малойцаў няма і не будзе не тое, што традыцый бацькоў, пачуццяў гонару і адказнасці за сваю Айчыну, а ўвогуле нічога святога і людскага ... У шалёнай пагоні за "баксамі" і нажывай такі растопча ўсякую годнасць і мараль ... А ў гэтай плыні-камусьці і тым нямногім асобам, хто сапраўды хацеў бы праявіць свае гаспадарскія, прадпрымальніцкія здольнасці не даюць нармальна разгарнуцца і весці справу. І вельмі дарэчы, што аб гэтым у дэмакратычным аб'яднанні "Ветэран" і яго маладзёжным цэнтры на канферэнцыях, семінарах, "круглых сталах", пры правядзенні юрыдычных кансультацый заўсёды гаворыцца наўпрост і адкрыта.

*(Заканчэнне ў наступным нумары)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by



*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гарадзенскага аблвыканкама.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 1. 03. 99 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 604.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 20 000 руб., 3 мес.- 60 000 руб.
***Кошт у розніцу:*** 5 000 руб.